# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1250) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 10 ЛЮТАГА 1980 г. ЦАНА 1 зл.



*На Беласточчыне за апошнія гады пабудавана 23 тысячы кватэр.*

## ГЭТА НАША

Калі наведаюць мяне госці, якія доўга не бачылі Беластока і яго наваколля, тады найчасцей чую ад іх:

— Але ж ваш горад змяніўся! — і паказваюць яны, што вось тут былі даўней старэнькія, вясковага тыпу, пераважна драўляныя домікі, а цяпер вунь якія блокі тут паявіліся!

Гэта праўда. Чужым лягчэй прыкмеціць усё новае, бо яны захавалі ў памяці вобраз даўнейшага Беластока, такога, якім ён быў пяць-дзесяць гадоў таму назад. А тады не было яшчэ такіх вось пасёлкаў, як той, што пры вуліцы **Сянкевіча, Варшаўскай** або на Беласточку. Мне, для прыкладу, часта даводзілася хадзіць па вуліцы **Сітарскай.** Яна не так далёка ад цэнтра горада, зараз жа за чыгункай. Брукаваная, старамодная, нават без тратуара, затое летам пахла яблыкамі і кветкамі ў агародчыках — такая тыповая вуліца для тых раёнаў горада, якія цесным кальцом акружаюць цэнтр Беластока. Не быў я на Сітарскай усяго ледзь 3-4 месяцы і, аказваецца, ужо больш не змагу яе ўбачыць, бо даўнейшай Сітарскай няма. Ад драўляных домікаў асталіся толькі некаторыя фундаменты, якіх яшчэ не паспеў змалоць бульдозер. На Сітарскай вырастуць на весну новыя жылыя гмахі.



*„Понар-Бяль“, або, інакш кажучы, беластоцкія „Ухвыты“, прадукуюць экспартны тавар самай высокай якасці.*

**Андрэй Кіцман,** дырэктар Беластоцкага будаўнічага аб'яднання, выступаючы на Ваяводскай партыйнай спрываздачна-выбарнай канферэнцыі ў Беластоку, заявіў, што толькі на працягу двух мінулых гадоў будаўнікі перадалі насельніцтву Беластока 8 тысяч кватэр — на 900 больш, чым прадбачваў план. Ведаю, што і гэтага яшчэ замала, бо чарга да свайго ўласнага **„М“** расцягваецца на многія гады. Адзіны выхад — будаваць **фабрыкі дамоў.**

(Працяг на стар. 4)



*На Беласточчыне пабудавана 190 аб'ектаў сельскагаспадарчага характару. Вось адзін з іх — ферма адкорму свіней у Чарэўках.*

Гэты рух датычыць найбольшых каштоўнасцей нашага грамадства, мае найшырэйшы абсяг і разлічаны на ўдзел у ім даслоўна кожнага з нас.

Цэнтральная рада Прафесіянальных саюзаў, якая аб'ядноўвае 12-мільённую армію людзей працы Народнай Польшчы, разам з Галоўным праўленнем Саюза сацыялістычнай польскай моладзі і Міністэрствам культуры і мастацтва аб'явіла агульнапольскі **II агляд культурнай актыўнасці працоўных „Чалавек-Праца-Творчасць“,** які будзе працягвацца ў 1980-81 гадах. Засноўваецца ён на ўказаннях Дырэктываў Цэнтральнага Камітэта на VIII З'езд ПАРП і накіроўваецца на ўмацаванне творчай ролі рабочага класа ў культуры і выхаваўчай функцыі ўсіх прадпрыемстваў

## ЧАЛАВЕК-ПРАЦА-ТВОРЧАСЦЬ

у пабудове ў нашай краіне развітага сацыялістычнага грамадства.

Перад II аглядам стаяць шляхетныя мэты. Ён будзе спрыяць фармаванню асабовасці чалавека працы, узбагачаць сацыялістычную мэтанакіраванасць яго дзеяння, умацоўваць сацыялістычны характар учынкаў і паводзін людзей і іх перакананне, што толькі сумленнай і саліднай працай можна здзейсніць свае імкненні і жаданні, заахвочваць да актыўнага ўдзелу ў культурнай і грамадскай дзейнасці. Нацэлены ён на тое, каб умацаваць сям'ю як падставу нашага грамадства, каб паглыбляць сярод моладзі творчыя і заангажаваныя адносіны да працы і жыцця. Заданне яго — абуджаць у кожным чалавеку пачуццё абавязку ў адносінах да роднага краю, горада, мясцовасці, месца працы і адказнасці за іх дабро.

Беластоцкі ваяводскі камітэт II агляду „Чалавек-Праца-Творчасць“ на сваім пасяджэнні 21 студзеня г.г. прыняў праграму гэтага масавага дзеяння. Як і трэба спадзявацца, яна вельмі багатая і разнастайная, прадбачвае мноства карысных для кожнага з нас пачынаў, мерапрыемстваў, акцый, конкурсаў, паказаў, аглядаў, выставак і г.д. Назваць іх усе проста немагчыма, неабходна абмежавацца да некалькіх прыкладаў.

Асноўную ўвагу праграма адводзіць паляпшэнню ідэйна-выхаваўчай і культурна-асветнай дзейнасці малых і сярэдняй велічыні прамысловых прадпрыемстваў, а таксама ўмацаванню ролі і аўтарытэту майстра сярод працаўнікоў на ўсіх заводах і фабрыках. У сувязі з падрыхтоўкай да адзначэння 100-й гадавіны ўзнікнення польскага рабочага руху ў лістападзе г.г. будзе праведзена спецыяльная навукова-папулярная сесія „Рабочы клас Беласточчыны“, на якой будуць разгледжаны рэвалюцыйныя і інтэрнацыянальныя традыцыі беластоцкага рабочага руху. З мэтай умацавання саюза рабочых і сялян конкурс актыўнасці вясковых асяроддзяў будзе пашырацца, а „Дэкада культуры вёскі“ ў Беластоку будзе праводзіцца на вышэйшым узроўні і з большым размахам, беластоцкія прадпрыемствы наладзяць сталае супрацоўніцтва з усімі 49 гмінамі нашага ваяводства. Будуць пашырацца і ўмацоўвацца сувязі дружбы з СССР, асабліва з прыгранічнымі рэгіёнамі Беларускай і Літоўскай Савецкіх Рэспублік, а для паглыблення сярод рабочай моладзі ідэй польска-савецкай дружбы будзе праводзіцца конкурс „Веды ўмацоўваюць дружбу“. Словам, на Беласточчыне ў правядзенні кожнага культурна-асветнага мерапрыемства ці ўрачыстасці самы актыўны ўдзел будуць прымаць розныя арганізацыі прафесіянальных саюзаў і галоўным чынам — Ваяводская рада прафсаюзаў. Гэта таксама датычыць і культурна-асветнай працы Беларускага грамадска-культурнага таварыства

Наша арганізацыя дзейнічае сярод людзей працы, школьнай і студэнцкай моладзі і ўсяцэла накіравана на абуджэнне якраз грамадскай і культурнай актыўнасці гэтых асяроддзяў, на стварэнне ўсім магчымасці паказаць свае здольнасці. Наш разнастайны і багаты аматарскі спявачы, тэатральны, музычны рух, а таксама са значнымі ўжо дасягненнямі літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“ якраз і знаходзяцца ў той

(Працяг на стар. 2)

**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**

# АБ НАШЫХ СПРАВАХ

Многа ў „Ніве“ за мінулы год пісалася аб праблеме выхаду моладзі з вёскі ў горад, аб прычынах і выніках. Між іншым, і аб тым, што многія з гэтых выхадцаў саромеюцца сваёй мовы і сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Дзядзька Квас назваў такіх яцвягамі, мусіць, таму, што яцвягі не змаглі ўтрымаць сваёй нацыянальнай адрозненасці, сваёй мовы і след па іх не астаўся. Гэта праўда, але яцвяжскай трагедыі спрыялі вонкавыя і ўнутраныя абставіны і ўключаць іх у лік нацыянальных выраджкаў было б крыўдна. Як апісваюць гісторыкі, яцвяжскія воіны былі вельмі адважнымі і храбрымі.

Згаджаюся з Дзядзькам Квасам, што ў насельніцтва беластоцкай зямлі можа быць і частка яцвяжскай крыві. Можа гэта і спрыяла (але спрачацца не буду) таму, што ў беларусамоўных вёсках, што мяжуюць з этнаграфічна польскімі, на працягу многіх год насельніцтва захавала сваю беларускую мову, тады як на ўсход ад іх, а асабліва паўночны ўсход, у многіх мясцовасцях беларусамоўнасць пахіснулася.

Праблема выхаду з вёскі ў горад гэта праблема не толькі беларускага насельніцтва, але ўсяго польскага краю, а таксама многіх другіх краін. Выклікалі гэта прычыны эканамічныя: патрэба рук да працы ў развіваючайся прамысловасці, транспарце, гандлі і г.п.

Для беларусаў у гэтым усім балючым з'яўляецца тое, што многія, апынуўшыся ў горадзе, саромеюцца там сваёй мовы, свайго паходжання. Чаму так дзеецца? Аб гэтым хачу крыху і пагаварыць. Па-мойму, першай і асноўнай прычынай з'яўляецца адсутнасць нацыянальнай свядомасці. Не ведаю раёнаў Бельска і Гайнаўкі, возьмем усходнія сельскія раёны Беластока і Саколкі. Насельніцтва ў вёсках гаворыць па-беларуску, а іх паняцце прыналежнасці да беларускай нацыі ніякае. Трэба прызнаць, што беларускае нацыянальнае самавызначэнне стала актуальным толькі ў апошнім стагоддзі і то ў неспрыяльных абставінах. Нічога тады дзіўнага, што хлопец ці дзяўчына з такіх вёсак, апынуўшыся ў горадзе ў іншамоўным асяроддзі, саромеецца свайго.

Ёсць таксама частка людзей, не толькі беларусаў, пазбаўленых пачуцця чалавечай годнасці. Яны маглі б жыць у кожным пункце зямлі і звацца кім хочаш, абы толькі добра жылося. „Газета Ольштынская“ з 4 студзеня г.г. пісала аб адным „кіраўніку“. Пабудаваў прыгожую вілу, задбаў аб прыгожай мэблі, 3 разы ў адной пяцігодцы на дзяржаўныя талоны купляў самаходы, але калі мелі быць госці, каб не паказаць свайго паходжання, маці-сялянку выслаў далёка з хаты.

Для нас, бадай, найбольш балючым ёсць тое, што многія, вышаўшы з беларускіх школ, маючы ўжо добрае асведамленне ў нацыянальных справах, стаўшы інжынерамі, дактарамі, прафесарамі і г.п., забыліся, хто яны.

Ёсць яшчэ адна катэгорыя ў беларускай інтэлігенцыі — балбатуноў. Наведвае час ад часу мяне адзін з такіх. Як толькі спаткаемся, пачынае „а мы беларусы, мы!“ — і на гэтым уся беларускасць канчаецца. Календара свайго не купіць, газеты сваёй не выпіша. Што ж тады з такога беларуса-інтэлігента? Які яго ўклад у захаванне сваёй нацыі? А хто ж будзе пра гэта дбаць, калі не мы самі?

Народная пагаворка кажа: „пад ляжачы камень і вада не цячэ“. Мы не можам быць тым ляжачым каменем. Тое, што вада часу змывае смецце, няма чаго па ім бедаваць, а хто можа і дзе можа прыкладаецца да працы. А працы ёсць многа і на ніве беларускай асветы, культуры і навукі, словам, у кожнай галіне жыцця. Тады і не сорамна будзе прызнацца беларусам.

**В. Станулевіч**




У Калядныя святы адно меў у галаве: як яго ажаніць, гэтага Васіля, зацвярдзелага кавалера, гэтую ціхоню. А ажаніць жа мушу.

Урэшце прыдумаў. Напэўна яго ажаню. І то яшчэ з суседскаю дзяўчынай, Воленькай. Нябрыдкая. Гаспадарная. Працавітая. Невучоная толькі. Гэта праўда. Але калі б мела школу, не сядзела б каля бацькі. І на Васіля не хацела б глядзець. Яна яму найлепш адпавядае. Як бы пад заказ. Трошачкі загарачая. Засмелая капельку. На ўсё знойдзе адказ. Гэта праўда. А можа гэта і добра? Будзе кіраваць і гаспадаркай і Васілём.

Нейк яму намякнуў: — Васіль, жаніся ты з Воленькай.

Ведаеце, што мне адказаў?

— З кім? З Воляй? Ніколі! Што вы, дзядзька? Яна ж стракоча, як кулямёт.

— Ну гэта вельмі добра, — кажу яму. — Будзе гаварыць і за цябе і за сябе. Ты толькі падумай, гаспадаркі спалучыце, першым гаспадаром будзеш. Каму Якім усё дабро аддасць? Як ты думаеш?

— Дзядзьку, калі яна такая добрая, чаму дагэтуль замуж не выйшла? — буркнуў гіцаль.

— А таму, — кажу са злосцю, — што калі б выйшла, не было б каго табе сватаць.

— Ну, добра, дзядзька, добра, падумаю, — адказаў ён, каб адчапіцца. Бо дагэтуль нічога не прыдумаў. Вось таму за яго мушу думаць. Воленьку трэба вучыць! Да Васіля яна схільнасць мае.

— Ты часцей забягай да Анюты, — кажу дзяўчыне. — Памажы ёй у хаце, кароўку падаі. А з Васілём славечкам перакінься. І ён прывыкне, закахаецца. А рэшту я закончу.

— Дзядзенька, — сказала яна, — гэта непрыгожа. Што людзі скажуць? На языкі мяне возьмуць. Накідаецца сама Васілю.

— А ты плюнь на ўсё. Кахаеш яго, ці не?

Не адказала. Пачырванела і ўздыхнула, як бы камень ляжаў у яе на сэрцы.

— Кахаеш ты яго, кахаеш. І то яшчэ як! Толькі сляпы не ўбачыць. Паспрабуй, як табе раю.

Паслухалася дзяўчына, таму што ў вёсцы загудзела. Аб гэтым толькі бубнілі. Ну, думаю, пара. Пайду да Анюты і разведаю.

Зараз па Калядах наведаў я сваю куму. Прывітаўшыся, запытаў, як бы нічога не ведаўшы: — А што чуваць у вас? Як Васіль?

— Ой, куманёк! У нас усё адмянілася. Васіля цяпер не пазнаць. А ўсё, дзякуй Воленьцы. Дай ёй Бог здаровячка. Яна мне, як дачка. І аднаго толькі цяпер хачу, каб яны пажаніліся.

— Пажэняцца, кумачка, пажэняцца. Я вам гавару. А дзе ён?

— Яшчэ каля дабытку ходзяць. І ведаеце, кум, заўсёды разам.

Скрыпнулі дзверы, і ў хату ўляцеў Васіль. Ого, гэта не той Васіль, што даўней. Вясёлы, расчырванеўся, задаволены, пэўна, з жыцця.

— Ну, што, — кажу, — Вася, Каляды праходзяць, падумаем аб сватанні.

Не даў мне дагаварыць.

— Навошта нам ехаць няведама куды. Я ўжо ўсё рашыў. Жаніцца мне толькі з Воляй! Такі добра мне калісь раілі.

Ага, — думаю сабе, — клюнула рыбка. А ўголас сказаў:

— Калі так, Вася, давай такое вяселле згуляем, каб людзі доўга аб ім памяталі.

**Г. Мароз**

# ПРЫГАЖОСЦЬ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

У гэтым годзе зімовыя канікулы ў гарцэраў Сакольшчыны прайшлі вельмі цікава. Як паінфармаваў камендант сакольскага гуфца ЗГП **Ежы Маліноўскі,** каля 1300 гарцэрак і гарцэраў удзельнічала ў 12 розных лагерах-зімовішчах у сваіх мясцовасцях, а таксама ў іншых рэгіёнах Польшчы. Вярнуліся яны адпачыўшымі, вясёлымі, з новым запалам да вучобы і з мноствам уражанняў.

Асабліва адкрыўча і працавіта прайшло зімовішча ў Сакольскім агульнаадукацыйным ліцэі. **„Хараство Сакольскай зямлі“** — гэта была асноўная тэма заняткаў на ім. Удзельнічала каля 60 дзяўчынак і хлопцаў з розных школ Сакольшчыны, у тым ліку 30 з вясковых школ. Усе яны цікавяцца мастацтвам і праявілі ўжо свае здольнасці ў якой-небудзь яго галіне. Заняткі праводзіліся па жывапісу, разьбе, графіцы, ткацтву, былі таксама заняткі для любіцеляў канструявання плаваючых і лётаючых мадэляў. Займаліся з гарцэрамі праўдзівыя мастакі, абсальвенты вышэйшых мастацкіх школаў. Яны вучылі адкрываць арыгінальнае і прыгожае вакол сябе, у родных ваколіцах, і нялёгкаму ўменню валодаць пэндзлікам, пёркам, алоўкам, разцом ці звычайнай лёшчаткай ды чаўнычком.

У пошуках аб'ектаў і матываў да сваіх прац юныя творцы са сшыткамі для замалёвак з натуры ў руках наведалі прамысловыя прадпрыемствы свайго горада, найбольш маляўнічыя яго месцы. Праехалі яны па славутаму „татарскаму шляху“ і паглядзелі сакольскі арыент у Багонніках і Крушынянах. У Дуброве Беластоцкай сустрэліся з народнымі разбярамі, а ў Янове — з ткачыхамі вядомых на ўсім свеце падвойных дываноў. Шукалі і знаходзілі самыя прыгожыя краявіды Сакольшчыны.

Усё гэта не толькі прываблівала, але цалкам паланіла маладых мастакоў. Свае адкрыцці і ўражанні яны выказвалі ў працы. І прац сабралася не мала. Шэраг з іх сведчыць пра выдатныя здольнасці і ўменні аўтараў.

З найлепшых прац паўстане спецыяльная выстаўка. Яна будзе паказана ў Сакольскім агульнаадукацыйным ліцэі, а затым ва ўсіх школах Сакольскай гміны, магчыма таксама — у Беластоку, а нават у Варшаве. Так з прыгажосцю сакольскай зямлі, паказанай улюбёнымі ў яе юнымі сакольскімі творцамі, пазнаёмяцца розныя людзі і гарады.

Душой гэтага надзвычай каштоўнага выхаваўчага мерапрыемства з'яўляюцца дырэктар Сакольскага комплекса агульнаадукацыйных школ **Рамуальд Буйніцкі** і сакольскі мастак **Браніслаў Чапляевіч,** а арганізатарам — сакольскі гуфец ЗГП. Можна толькі павіншаваць іх і паставіць у прыклад іншым гмінам Беласточчыны. **(іс)**




**У нашым фотааб'ектыве.** *Дзявочы калектыў з бельскага медліцэя.*

*Фота Я. Целушэцкага.*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LIX**

Зацікаўленне Коласа жанрам казкі выступіла вельмі рана. Ужо ў пачатку свайго творчага шляху пачаў пісьменнік апрацоўваць народныя казкі. У чацвертым і пятым томе збору твораў з 1962 года знаходзім 23 казкі беларускія і 19 казак рускіх. Аднак апрацоўкі народных казак і „Казкі жыцця“ — гэта даволі розныя віды творчасці Коласа, хаця і зацікаўленне адным і другім вырастае з таго самага рамантычнага грунту.

У гадах 1930-1955 беларускія крытыкі або нічога не гаварылі аб коласаўскіх „Казках жыцця“ або прыводзілі іх як прыклад нацыяналістычных або містычных настрояў пісьменніка. Аднак сам Колас адносіў „Казкі жыцця“ да галоўных дасягненняў сваёй творчасці і ставіў іх у адзін рад з паэмамі „Новая зямля“ і „Сымон-музыка“.

Аб гэтым напісаў вядомы гісторык літаратуры Пшыркоў: „Дарэчы, Я. Колас у лісце да аўтара гэтых радкоў яшчэ ў 1939 годзе пісаў, што „Казкам жыцця“ ён аддае вельмі вялікае значэнне і ставіць іх у след за паэмамі „Новая зямля“ і „Сымон-музыка“. Ён выказаў сваё здзіўленне тым, што адзін з самых лепшых і задушэўных яго твораў крытыка абходзіць глыбокім маўчаннем. У гэтым і няма дзіва, даваенны крытыцы не пад сілу было раскрыць глыбокі сэнс коласаўскай алегорыі“.

У гэтым цікавым выказванні нельга згадзіцца з апошнім сказам. Справа ў тым, што ў даваенны перыяд, у дваццатыя гады былі крытыкі, якім „была пад сілу“ спецыфіка коласаўскай алегорыі.

Прыкладам можа быць Ю. Бярозка, які ў артыкуле „Коласава алегарычная навела“ прадставіў вельмі цікавую і арыгінальную інтэрпрэтацыю структуры стылістыкі і ўнутранай арганізацыі „Казак жыцця“. Бярозка быў першым крытыкам, які залічыў „Казкі жыцця“ да твораў рамантычных і давёў, што існуе стылістычна-мастацкая сувязь паміж імі і „Сымонам-музыкам“: „Не толькі „Сымон-музыка“, але і „Казкі жыцця“, калі не цалкам, то ў значнай ступені трэба аднесці да твораў тыпова рамантычных.

„...Рамантычная паэма пра малога геніяльнага музыку застаецца ў простым сваяцтве з рамантычнымі „Казкамі жыцця“. Гэта рэчы аднаго канструкцыйнага парадку, падобных стылёвых асаблівасцей.“

Шукаючы генезіс „Казак жыцця“, Бярозка, здавалася б, насуперак логіцы, выступіў супраць якіх-кольвек сувязяў „Казак жыцця“ з народнымі казкамі. Свой погляд аб розніцах паміж алегарычнымі навеламі Коласа і народнымі казкамі Бярозка абапіраў на тым, што народнай прозе чужая ўзрушана-лірычная стылістыка, шырокая апісальнасць, адухаўленне мёртвых прадметаў і раслін.

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ЖАНЧЫНЫ І ПАЛІТЫКА

У пачатку лістапада мінулага года ў Заблудаўскай гміне пачаліся заняткі ў рамках школ грамадска-палітычнага абучэння вясковых жанчын у пяці мясцовасцях: Фальварках Тыльвіцкіх (школа I ступені), Рыбалах (III ступені), Рафалоўцы (III ступені), Кур'янах (II ступені) і Дабжыневе (I ступені). Займаецца ў іх каля 150 асоб. Заняткі адбываюцца адзін, а то і два разы ў тыдзень у школах, у клубах селяніна і „Рух" і ў цэнтры „Сучасная гаспадыня".

Для прыкладу, у Рыбалах збіраецца на заняткі 25 жанчын. Усе яны паспяхова закончылі школу II ступені. Цяпер знаёмяцца яны з праблемамі сельскагаспадарчай палітыкі, сацыяльнай, грамадзянскага выхавання, сям'і, рацыянальнага вядзення хатняй гаспадаркі і іншымі. Заняткі вядуць актывісты Мейска-гміннага камітэта ПАРП у Заблудаве.

Варта дадаць, што гурток вясковых гаспадыняў у Рыбалах з'яўляецца адным з самых актыўных у гміне. Асабліва многа часу ў сваёй дзейнасці прысвячае ён адукацыі жанчын на розных курсах і апецы над дзяцьмі. Асноўнай базай дзейнасці КГВ з'яўляецца цэнтр „Сучасная гаспадыня". Ён задбаны, у ім навейшае светліцовае абсталяванне. Тут вядуцца розныя формы працы з дзецьмі з Рыбалаў і навакольных вёсак.

### ПРАДУКЦЫЯ СА ЗНАКАМ ЯКАСЦІ

Малочнае прадпрыемства ў Дуброве існуе 13 гадоў. Працуе ў ім 115 асоб, больш тут жанчын, чым мужчын. Пастаўляюць малако гаспадары з пяці гмін: Дуброва, Новы Двор, Сухаволя, Янава і Сідра. Прывозяць яго з 44 злеўняў. У сярэднім 23 млн. літраў у год. Прадпрыемства выпускае 4,5 тоны масла, тры тоны розных гатункаў сыра, 600 кг тварагу, сыроў і іншых вырабаў у суткі. Адсюль ідзе на рынак яшчэ малочны парашок і казеін (казеін — найлепшы ў ваяводстве). Сыры „тыльжыцкі" з Дубровы — адзін з найлепшых па якасці і найсмачнейшы. Адборны таксама „эдамскі". Апрача іх, малачарня прадукуе яшчэ сыры „любускі", „падляшскі" і ад нядаўна — „марскі". У 1976 годзе дуброўскае масла атрымала знак сусветнай якасці. Гэта важнае дасягненне рабочага калектыву, які змагаецца за якасць сваіх вырабаў, на што зараз звернута ўвага на прадукцыйных прадпрыемствах. Да перадавых рабочых належаць: Станіслава Бакун, Алойзы Яблонскі, Ядвіга Грывіч, Генрык Рудзь, Казімір Андрукевіч, Станіслава Скакоўская, Уладзіслава Карп, Ян Шчарко, Эдвард Бабовік, Ян Чырскі, Яўген Кудзелька і другія.

У бягучым годзе малочнае прадпрыемства будзе разбудавана коштам 10 мільёнаў злотых.

### НАЙЛЕПШЫЯ РАБОТНІКІ ГАНДЛЮ

У Гарадоцкай гміне найлепшымі работнікамі гандлю з'яўляюцца: Ірэна Кароткіх, Уладзімір Цыванюк і Станіслаў Курт — усе яны з Гарадка, Таццяна Шуста з Баброўнікаў і Валянціна Хлябіч з Валілаў-станцыі. У іх шматгадовы стаж. Найдаўжэй у гандлі працуе прадаўшчыца Ірэна Кароткіх — 28 гадоў, затым Уладзімір Цыванюк — 21 год, Таццяна Шуста — 16 гадоў, Станіслаў Курт — 14 гадоў і Валянціна Хлябіч — 12 гадоў. У іх адметныя рысы гэта сумленнасць, стараннасць і дысцыплінаванасць. Усіх гэтых работнікаў гарадоцкага ГСу кліенты высока цэняць за ветлівае абслугоўванне. Прадаўшчык Уладзімір Цыванюк з Гарадка вядомы яшчэ як грамадскі дзеяч.

(яц)

### НЯМА СТАМАТОЛАГА

Жыхары навакольных вёсак, якія карыстаюцца з парад і лячэння ў дубяжынскім цэнтры аховы здароўя, скардзяцца, што ўжо амаль год як няма там стаматолага. Раней быў, але невядома чаму выехаў, а новага не назначылі. Зубы ж лячыць трэба! Боль на ўмовы не глядзіць і часу не выбірае. І зараз трэба ездзіць аж у Бельск. А як не ёсць гэта ж кусок дарогі і практычна трэба патраціць аж цэлы дзень. Пакуль даедзеш, пакуль вернешся. І ад працы трэба адрывацца. Вельмі добра было, калі быў стаматолаг у Дубяжыне, успамінаюць людзі. Ці няма магчымасці каб зноў назначыць? А тым больш, што ўмовы да працы ёсць. І кабінет і прылады. І пра селяніна паклапаціцца ж трэба...

(мш)





Фабрыка сельскагаспадарчых машын у Чорнай Беластоцкай шматзначна павялічвае прадукцыю растрасальнікаў гною.

## ГЭТА НАША

(Працяг са стар. 1)

Яны ў нас перш за ўсё размясціліся між Беластокам і Старасельцамі, побач шашы, якая вядзе ў сталіцу краіны. Найперш была **„Фадом-1"**, у мінулым годзе па-суседску пабудавалі падобную фабрыку, дзе рыхтуюць элементы для пабудовы (а дакладней — для мантажу) гатовых жылых карпусоў. Гэта „Фадом-2".

— Мы цяпер маем магчымасць мантаваць 6 тысяч кватэр у год, — заяўляе дырэктар Кіцман. Але кватэры будуюць не толькі падпарадкаваныя яму прадпрыемствы. **Калі палічыць усё, што на працягу чатырох мінулых гадоў пабудавана на Беласточчыне, дык выходзіць, што наваселле за гэты час спраўляла ў нас амаль 23 тысячы сем'яў, а пры гэтым больш чым кожная чацвертая сям'я цешылася ўласным асабняком, пабудаваным самастойна за свае грошы...**

У новую кватэру неабходна новая мэбля. Тады з вуліцы Звыценства хуценька трэба перабрацца на Паўночна-кальцавую шашу, дзе некалькі гадоў таму назад знаходзілася яшчэ пустое поле, на якім абсталявалі працаўнічыя агародчыкі — адны з прыгажэйшых у Беластоку. Яны і цяпер там засталіся, але па-суседску выраслі аграмадныя прамысловыя прадпрыемствы. Адным з першых была менавіта фабрыка мэблі — **„Бэфам"**. Пачала яна сваё прамысловае жыццё ў 1976 годзе і цяпер кожны год пастаўляе насельніцтву звыш 50 тысяч камплектаў. Разам з вытворчасцю адноўленай Гайнаўскай мэблевай фабрыкі гадавая вартасць іх прадукцыі перавысіла ўжо 5 мільярдаў злотых. І трэба сапраўднага шчасця, каб у магазінах натрапіць на мэблю з Беластока або з Гайнаўкі. Іх проста вырываюць людзі з рук.

З другога боку гэтай жа шашы здалёк ужо вылучаецца сваім чырвоным колерам завадскі корпус **фабрыкі станкавых патронаў**, або (гаворачы па-беластоцку) — новыя **„Ухвыты"**. Тут дакладнасць прадукцыі мераць тысячнымі долямі міліметра. Аддзел „Ухвытаў" сваю прадукцыю амаль поўнасцю пастаўляе на экспарт, размер якога на Беласточчыне ад 1975 года амаль падвоіўся, і зараз экспартная прадукцыя ацэньваецца ў нас на 5 мільярдаў злотых.

Туды, на гэтую Паўночна-кальцавую шашу, я найчасцей вязу сваіх знаёмых. Гэта ж своеасаблівы „пуп" сучасных пераўтварэнняў у Беластоку. Хопіць праехацца на аўтобусе № 14, а ўсё перад госцем паказваецца быццам у фільме. За „Ухвытамі" — шыкарны, светлы гмах прадпрыемства **„Унітра-Бязэт"**, дзе рыхтуюць шмат розных, вельмі складаных элементаў для зборкі навейшага польскага каляровага тэлевізара **„Евіш"**, які пад канец мінулага года паявіўся ўжо ў продажы. Спецыялісты кажуць, што будзе гэта тэлевізар на сусветным тэхнічным узроўні і гэта апраўдвае яго высокую цану — 46 тысяч зл.

Тут таксама знаходзіцца і **„Агнеля"**. Гэтым ласкавым імем названа фабрыка персідскіх дываноў. Яшчэ яе ўсё будуюць, а ўжо ідзе ўступная прадукцыя, ужо можна захапляцца шматкаляровымі *„персамі"* і *„генераламі"*.

Беласток узбагаціўся за гэты час і іншымі прадпрыемствамі, пра якія я ўжо не змагу сёння расказаць. Беластоцкая зямля ўвабрала ў сябе звыш 31 мільярд злотых, прызначаных на новыя капіталаўкладанні ў апошняй пяцігодцы. **Уладзіслаў Юшкевіч**, I сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, выступаючы з дакладам на справаздачна-выбарнай канферэнцыі, заявіў, што пабудавалі мы ўжо ў новых межах Беластоцкага ваяводства аж 35 рознай велічыні прамысловых прадпрыемстваў і 190 аб'ектаў сельскагаспадарчага характару.

І гэта ўсё наша, бо вырасла з нашай супольнай працы. Таму маем мы чым ганарыцца перад нашымі госцьмі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Беластоцкія фабрыкі дамоў могуць цяпер пастаўляць кожны год вялікагабарытныя панэлі для пабудовы 6000 кватэр.

### БУГ У АГНІ




Звярнуўся я да Яна Карпюка:

— Тыдзень таму назад не паспелі мы дакончыць вашу баладу. Давайце, калі ласка, сёння яе прадоўжым.

— Можна, — згадзіўся капітан. — Толькі хвілінку, зараз я прыпомню яе словы, бо яна вельмі доўгая, каля дваццаці строф.

— Дык можа мы яе крыху скароцім. Проста аставім тое, што найважнейшае, — запрапанаваў я аўтару, а ён згадзіўся і паціху пачаў спяваць:

*В точках бойцы все собрались*
*И стали вопросы решать,*
*Припасы им тут же роздали,*
*Засели страну охранять.*
*Те точки построены были*
*Там, где семятитский есть же район.*
*По шоссе они прямо стреляли,*
*По той, где агресор ишёл.*
*По шоссе этой в прямом сообщении*
*Вдоль нашей деревни, вдоль Слох,*
*За которой те точки держались*
*Фашистов гоняли врасплох.*
*Но германский майор, не зважая,*
*На всю скорость машину снабдил*
*И шосою хотел он проехать —*
*С приказом до Бреста спешил.*
*Неудача майору случилась,*
*Тут советский боец не струсил.*
*Пулемётом машину сдержавши,*
*Он майора в побеге убил.*
*Германцы всё это узнали,*
*Что майор был в деревне убит,*
*И злобы под охоту набрали,*
*Решили деревню казнить.*
*25-го июня подвечер*
*Из запада, как тучи, идут.*
*В три цепи деревню окружили*
*И народ неповинный весь бьют.*
*Подожгли дома и сараи,*
*Людей нагоняли в пожар...*
*Мы страсти такой не видали,*
*Как немец нам сделал удар...*

Спыніў капітан сваю песню, а я і не ведаў, ці ён яе ўжо закончыў, ці толькі маўчыць, і так сабе задумаўся. Здагадваўся, што займаюць яго ўспаміны аб перажытым у роднай вёсцы. Ён жа быў тады ўжо 18-гадовым юнаком, разважлівым і дапытлівым вясковым хлопцам.

— Спяваю я вось вам гэтую песню, — неяк цяжка ўздыхнуў Ян Карпюк, — а мне здаецца, што ўласнае сэрца па кусочку з грудзей вырываю. Успаміны... балючыя ўспаміны...

І зноў хвіліна маўчання.

— Быў у мяне старэйшы брат Ёзік. Забілі яго, гады... Памятаю, ён мяне збудзіў са сну, калі распачалася страляніна. Выбеглі мы на вуліцу, каб даведацца, што дзеецца? Сумненняў не было: ВАЙНА! Савецкія афіцэры, якія стаялі ў нашых сялян на кватэрах, паімчаліся ў свае доты, а нам, значыць, мне з братам, бацька загадаў капаць яму, каб было дзе схавацца ад снарадаў і куль, бо амаль безупынку ішла перастрэлка. Немцы стралялі з-за Буга, па надбужных дотах і ваенным гарадку, які знаходзіўся ў лесе між Слохамі і Турнай, а чырвонаармейцы не асталіся ў даўгу і страчылі са сваіх дотаў. На дабавак яшчэ над нашай вёскай са свістам праносіліся дальнебойныя снарады, якія разрываліся недзе на станцыі Сямяцічы і ў мястэчку Сямяцічы. На трэці дзень, значыць, у аўторак, 24 чэрвеня, над нашай вёскай паявіліся два самалёты. Я тады знаходзіўся над Бугам, наглядаў за каровамі. Сабраліся мы на ўзгорку і забыўшыся пра небяспеку, з задзертымі галовамі

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Звінела каморанька, звінела,*
*маладая дзеванька сядзела,*
*маладая дзеванька сядзела.*
*Сваю русу косаньку часала,*
*вялікую думаньку думала,*
*вялікую думаньку думала.*
*Прыехало госцікаў семдзісят,*
*выпусцілі конікі ў вішнёў сад,*
*выпусцілі конікі ў вішнёў сад.*
*Ніхай тыя конікі паходзяць,*
*маю дробну рутаньку пабродзяць,*
*маю дробну рутаньку пабродзяць.*
*Ніхай тыя конікі пастаяць,*
*ніхай мая дочанька пасядзіць,*
*ніхай мая дочанька пасядзіць.*
*— Выйдзі, выйдзі, матанька, з граблямі,*
*зграбі маю рутаньку з кветамі,*
*Зграбі маю рутаньку з кветамі.*
*Выйдзі, выйдзі, браточку, з вазочкам,*
*звязі маю рутаньку з пясочкам,*
*звязі маю рутаньку з пясочкам.*

Ад Яніны Радуха, 1923 года нараджэння, вёска Бянёўцы гм. Новы Двор, запісаў 18 ліпеня 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

## Этнаграфічнае аканца



*Разьба на доме Пятра Кібіша ў вёсцы Залатнікі гм. Юхновец.*
*Фота М. Гайдука.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, толькі не смейся! Прысніўся мне вельмі смешны сон. Быццам прымала я ўдзел у рабунку банка. Было нас трое, я і яшчэ двое мужчын. Я мела сачыць за акцыяй. І ўсё ўдалося: ні то грошы, ні то нейкія каштоўнасці мы ўжо здабылі і апынуліся ў нейкім высачэзным будынку (ні то ў тым жа банку, ні то ў нейкай гасцініцы). Будынак гэты 42-павярховы. Трэба ўцякаць ліфтам. Уціскаемся ў гэты ліфт і едзем, едзем, а ён нейкі амаль адкрыты, і я страшэнна баюся вышыні. Цэлую вечнасць, бадай, мы ўцякалі, але ўсё ж не ўцяклі. Узяла нас на допыт паліцыя, але ў мяне было алібі, і я цешуся, што нічога не сказала і нікога не выдала. Праўда, што дзіўны сон, Астроне?

Кацярына

**Кацярына!** У цябе ўсё, як у амерыканскім фільме, а ты, як амерыканскі гангстэр, з той толькі розніцай, што ўдаецца табе ашукаць паліцыю (бачыш, нават паліцыя ў тваім сне была!), а гэта рэдка здараецца ў сенсацыйных фільмах. Можа ты замнога сядзіш перад тэлевізарам? А мо ў цябе фінансавы крызіс, дык адзінае выйсце ты бачыш у рабунку... А наогул такія сны не варожаць нічога добрага — абазначаюць паніжэнне, беднасць і сум. Прабач.

**Астрон**




Сэрцайка, жыву я на вёсцы і працую на гаспадарцы. Я ўжо немалады, мне 33 гады і да гэтай пары я яшчэ нежанаты. З маладых гадоў не любіў я ездзіць па забавах. Я вельмі нясмелы і крыху заікаюся. Цяпер, калі я застаўся адзін у хаце, пастанавіў знайсці сабе жанчыну. Хачу табе, Сэрцайка, прызнацца, што адрас я знайшоў у газеце. Яна на чатыры гады за мяне маладзейшая. Жыве ў суседнім ваяводстве. Мы перапісваліся два месяцы. І вось у апошнім пісьме яна запрапанавала мне сустрэчу. Запрасіла на свой дзень нараджэння. Я цяпер заклапатаны, не ведаю, як паступіць, заехаўшы да незнаёмай жанчыны, як прывітацца з яе найбліжэйшымі і што завезці ў падарунку. Веру, дарагое Сэрцайка, што скарыстаю з тваёй парады.

Валодзя з Беласточчыны

Валодзя, перш за ўсё не саромся. Задбай пра свой выгляд. Памый, адпрасуй кашулю ды касцюм. Пастрыжыся, пагаліся, каб святочна выглядаць. А ў падарунак абавязкова купі кветкі — тры, пяць, так, каб было не да пары. Ну, і яшчэ штосьці. Мо штосьці са склепу „дамашняга гаспадарства“, ці нейкі камплект сурвэтак... Калі заедзеш, дзяўчына напэўна выйдзе, дык ты і прадстаўся — скажы імя, падай руку. Ёй будзе ясна, вы ж перапісваецеся. І тады яна сама цябе прадставіць сваім гасцям, а ты падыдзеш ды падасі ім руку, зразумела, найперш жанчынам. За сталом стане весялей. Толькі тут памятай: не перабяры меры, лепш на адну чарку менш, чым больш. Дык прыемнага гасцявання ды поспехаў у справах жадае табе

**Сэрцайка**

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: На аснове адміністрацыйнага падзелу П. займае кватэру ў доме З., які хацеў бы пазбыцца свайго кватаранта. Аднак прычапіцца няма да чаго, бо П. выконвае сумленна свае абавязкі ў адносінах да ўласніка. П. лічыць, што прыдзіркай да яго з боку З. з'яўляецца забарона водаправоднай устаноўкі і тэлевізійнай антэны. Ці мае ён права так паступаць, а калі не, то як П. можа дамагацца свайго права?

АДКАЗ: Паводле закону (арт. 684 КЦ) наймальнік мае права без згоды ўласніка кватэры ўстанаўліваць у нанятай кватэры электрычны свет, газ, тэлефон, радыё і іншыя абсталяванні. На аснове гэтага закону ўласніку не прыслугоўвае права забараняць П. абсталяваць водаправодную ўстаноўку і антэну. Яму прыслугоўвала б гэткае права толькі ў выпадку, калі б гэтакае абсталяванне было зроблена спосабам, не згодным з абавязваючымі правіламі або пагражала бяспечнасці нерухомай маёмасці. Калі гэткіх перашкод няма, то ўласнік не толькі не можа забараняць устаноўку гэткіх абсталяванняў, але павінен садзейнічаць наймальніку, хоць пры гэтым і прыслугоўвае яму права патрабаваць звароту коштаў гэткага садзейнічання.

Таму П. можа патрабаваць праз суд, каб З. не перашкаджаў яму ў абсталяванні водаправоду і антэны.

## Куток практычных ведаў




### БІТОЧКІ З МАРСКОЙ РЫБЫ

Размарозіць марскую рыбу, выняць косці і зняць скуру, прапусціць мяса праз мясарубку, дробна нарэзаць цыбулю, чэрствую булку намачыць у малацэ і добра яе выціснуць. Дадаць яечкі, соль і перац і ўсё добра вымяшаць. Рабіць у руках маленькія біточкі і варыць іх у булёне, дадаючы лаўровы лісток і англійскае зелле. Ачысціць і дробна нарэзаць гародніну (сэлер, моркву, пятрушку і пору) і стушыць на масле, даліваючы крыху вады. Зваранья біточкі палажыць на гародніну, падаваць з бульбяным пюрэ. На кілаграм марской рыбы бярэм 1/4 кг цыбулі, дзве булкі, два яечкі.

### ЛОДАЧКІ З САРДЫН

Марожаную сардыну спырснуць воцатам і пакінуць на гадзіну часу. Пасля гэтага рыбу добра пасаліць і падсмажыць. Астыўшую рыбу ачысціць ад касцей і раздрабніць. Кіслыя агуркі абабраць, перарэзаць уздоўж на палавінкі, выняць сярэдзіну. Дробна нарэзаць цыбулю і кіслае яблыка. Зваранья яечкі нарэзаць косткай, пакідаючы бялкі з двух яечак для ўпрыгожвання. Раздробленую рыбу вымяшаць з яечкамі, яблыкам і цыбуляй, пасаліць і пасыпаць перцам, дадаць маянезу. Лодачкі з агуркоў напаўняць салатай, класці на талерку, на якую мы палажылі тоненькі пласт маянезу. Упрыгожыць марынаванымі слівамі, сцертым на тарцы бялком яечак і зялёнай пятрушкай. Падаваць з булкамі ці хлебам. На 2 кг кіслых агуркоў бярэм кілаграм сардын, 100 г мукі (у яе мачаем рыбу перад тым, як будзем смажыць), алею — 300 г, цыбулі — 200 г, столькі ж яблыкаў і марынаваных сліваў, 300 г. маянезу.

**Гаспадыня**

ТОЛЬКІ СКНАРА І ЛЯНІВЫ НЕ ВЫПІСВАЕ „НІВЫ“

(Працяг са стар. 5)




*Бо помирать им рановато...*

*Среди людей и в одиночке,*
*Пропев вот этот наш мотив,*
*Скажите внуку, сыну, дочке:*
*Солдат погиб, но вечно жив!*

*Бо помирать-то рановато...*

— Так, тады падобных песень шмат мы спявалі па вясковых вечарынках, — кажа капітан Ян Карпюк. — Прыпамінаецца, для прыкладу, вось такая песня:

*То был невольный час разлуки,*
*Как фашист объявил нам войну.*
*Я поехал в чужбину далёку,*
*Побросил родную сторону.*
*Над дотами чайки взлетели,*
*Нарушив ночну тишину.*
*Германские пушки запели,*
*Фашист объявил нам войну.*
*Третий год как война началася,*
*Весь народ всколыхнула она.*
*Кровь молодая ручьём полилася,*
*Нужду терпит наша страна.*
*Над Бугом вот ворон взлетает,*
*От родных хочет весть передать:*
*Как страдает жена молодая,*
*Как слезами заливается мать.*
*Не дождался ворон ответа*
*И опять он назад полетел.*
*Встретил брата за дротом в неволе —*
*В Сухозебрах тот воин сидел.*
*Он измучен от голода страшно,*
*Даже ног он не мог передвигать.*
*Но собравши последние силы,*
*Из-за дрота решил убегать.*
*Бродил он по лесах и болотах,*
*В деревне Токари он жил.*
*И мальчик, подросток вихрастый,*
*В тайник им питанье носил.*

„*В деревне Токари он жил...*“ Гэтая вёска зараз знаходзіцца над самай цяперашняй граніцай, у гміне Мельнік, а за Такарамі распасціраецца вялікі лес, які быў добрым сховішчам для партызан. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя, да якой я вярнуся крыху пазней, калі ўжо раскажу ўсё, што трэба, пра вёску Слохі і аб змаганні савецкіх воінаў над Бугам і ў суседніх вёсках і раёнах.

**Віктар Рудчык**



*Вось Марыя Кузняцова са сваімі дзеткамі. Аб іх лёсе пісаў я 28 кастрычніка мінулага года. Вядома, што фашысты закінулі іх у лагер у Бельску. І там яны недзе прапалі. Можа, хто іх бачыў?*

Імпартгумар

## Спрачайцеся смялей!

**Начальнік аддзела.** Панове, я сабраў увесь наш аддзел, каб параіцца з вамі. Да мяне дайшлі чуткі, што некаторыя супрацоўнікі лічаць мяне самадурам, якому і слова ўпоперак сказаць нельга. Вы дасканала ведаеце, што гэта лухта і паклёп. Так?

**Рамірэс!** Безумоўна!

**Начальнік.** Вось бачыце! Больш таго, я заўсёды лічыў, што падначалены не толькі можа, але і павінен спрачацца з начальнікам, калі ён перакананы ў сваёй рацыі. Вы згаджаецеся, Рамірэс?

**Рамірэс.** Так, сіньёр.

**Начальнік.** Цудоўна. Вось давайце і паспрачаемся з вамі, і няхай усе супрацоўнікі бачаць, як я адношуся да людзей, якія ўмеюць адстойваць сваю думку. Вось я, напрыклад, лічу, што сёння цудоўны дзень, чароўная пагода. Вы згодны?

**Рамірэс.** Яшчэ б! Проста не прыпамінаю другога такога прыемнага дзянька.

**Начальнік.** Старайцеся, старайцеся, Рамірэс, спрачайцеся! Вы згаджаецеся, калі я гавару, што сёння харошы дзень, а між тым з раніцы лье дождж. Чаму ж вы не спрачаецеся са мною?

**Рамірэс.** Таму што я абажаю дождж. Для мяне дождж — гэта свята, сіньёр.

**Начальнік.** А па-мойму, усё-такі лепш, калі свеціць сонейка, калі цёпла, калі не спяшаючыся ідзеш па вуліцы і глядзіш на харошанькіх дзяўчат.

**Рамірэс.** Вядома, лепш, сіньёр.

**Начальнік.** Дык чаго вы толькі што сцвярджалі, што дождж для вас свята?

**Рамірэс.** Так, сіньёр начальнік, я абажаю дождж. Ды толькі таму, што пасля яго выглядае сонейка, становіцца цёпла, вуліцы поўны харошанькіх дзяўчат...

**Начальнік.** Смялей, смялей, Рамірэс! Спрачайцеся са мною! Вось я сказаў, што люблю глядзець на харошанькіх дзяўчат, і вы згадзіліся. А я толькі правяраў вас. На самай справе мне і ў галаву не прыйдзе глядзець на розныя фінціклюшкі. А вы?

**Рамірэс.** Так, сіньёр, я сказаў, што ў сонечную пагоду вуліцы поўны харошанькіх дзяўчат. Гэта канстатацыя сумнага факту, і толькі. Я як убачу прыгажанькую мордачку, тут жа адварочваюся. Адварочваюся нават раней, чым убачу. Такая ўжо ў мяне натура, сіньёр начальнік.

**Начальнік.** Як з вамі цяжка спрачацца, Рамірэс! Я ж пажартаваў наконт дзяўчат. Хто ж не любіць паглядзець на стройную прыгажуню!

**Рамірэс.** І я пажартаваў. Шыю я на вуліцы, вядома, кручу, ды толькі дзеля таго, каб не прапусціць ніводнага сімпатычнага тварыка.

**Начальнік.** Як, аднак, цяжка з вамі спрачацца! Ні за што не зверне вас з вашага пункту погляду! Вы згодны, панове? Вось вам і прыклад таго, аб чым я гаварыў на самым пачатку. Рамірэс — чалавек, як вы бачыце, упарты, стаіць на сваім. І тым не менш мы паспрачаліся, пагаварылі, кожны застаўся пры сваёй думцы. Вы згодны?

**Рамірэс.** Так, сіньёр начальнік.

**Гансала** (Аргенціна)



**Сярод падначаленых ён — ключнік, перад начальствам — пытальнік.**

# НІЎКА



### МІНІВЕРШЫ

**ПРЫПІСЧЫК**

Ты кажаш, прэмія гарыць?..  
Дык трэба лічбу акругліць:  
Стаў сто працэнтаў сем дзесятых —  
І будзе з гакам план узяты.  
Так лаўкачы з сям'і нядбайных  
Цярэбяць шлях да прэміяльных.

**Базыль Хізавец**

**ХТО ВАЖНЕЙ?**

— Ну што рабіць? Бяда ў мяне такая:  
Начальства болей мне не даверае.  
— Чаго бядуеш ты, аб чым гамонка?  
Шмат горш, калі не даверае жонка!

**Мікола Варшыцін**

**ДАЯРКА**

Сустрэліся задрыпанцы на вуліцы. Разгаварыліся. Вось адзін і пытае другога:

— Чуў я, што твая дачка пераехала жыць у горад?

— Ды пераехала нядаўна.

— А кім жа яна там працуе?

— Ды даяркаю, — адказвае той неахвотна.

— А каго ж яна доіць? — здзівіўся таварыш.

— Ды нас са старою...



**СВОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**

— Што такое паляўнічае шчасце? — спыталі аднойчы ў браканьера.

— Гэта ўменне добра замесці сляды, упаляваўшы буйнага звера без ліцэнзіі, — адказаў той.

**КАЛІ ХТО ВЫЕ?**

Суседскі хлопчык пытае п'янага суседа:

— А чаго гэта ваш Жучок вые?

— То значыць, што мяне няма дома... А калі пачуеш, што мая Маня завывае, то значыць, што я ў хаце.

**ДАЙ ПАДУМАЦЬ**

— Скажы, Іване, чаму разумныя, думаючы, чухаюць скроні, а дурні — патыліцу?

— Зараз, дай падумаю, — адказаў Іван, чухаючы патыліцу.

**НЕ ЛЮБЛЮ ПАЎТАРАЦЦА**

— Калісь ты так многа гаварыў мне пра каханне, а цяпер — ні слова ад цябе не пачуеш.

— А-а-а, я не люблю паўтарацца...

**З „Весніка Задрыпоніі"**

**КОМПЛЕКСНЫ ПАДЫХОД**

Вялікае значэнне надаюць комплекснай забудове жыллёвага раёна „Князі" архітэктары горада Н. У непасрэдным суседстве піўной плануецца пабудова траўмпункта, штаба армо і вывярэзніка.

**ПЫТАННЕ ДАЦЭНТА СКОКА**

Ці варта кідаць словы на вецер, не даведаўшыся, куды ён дзьме?







— *А я атрымала трохпакаёвую...*

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

## BIAŁY LATAWIEC

**Słowa: Ewa Lipska**  
**Muzyka: J. Wojdak, A. Zygierewicz**

Białym latawcem dzień wypłynął,  
nad wzgórzami biała sukienka,  
sen się skończył, ale nie minął,  
stoi w oknie, stoi panienka,  
Popłyniemy białym latawcem,  
on przyrzeka, ona mu wierzy,  
wiatr na wzgórzach zbiera dmuchawce,  
ktoś na alarm w chmurę uderzył.

Płyną, płyną, płyną nad ciszą,  
pewnie siebie już nie usłyszą,  
on ją woła, ona nie słyszy,  
sen bezsenny, sen ją kołysze.  
On latawcem białym na niebie,  
ona płynie dokoła siebie,  
płyną chmury w pijanej bieli,  
rozpłynęli się, rozpłynęli...

Białym latawcem dzień wypłynął,  
białe wino w jeziora szklance,  
przyjechało ruchome kino,  
świat się kręci w szalonym tańcu.  
Popłyniemy białym latawcem,  
on przyrzeka, ona mu wierzy,  
będę twoim nadwornym krawcem,  
centymetrem miłość wymierzę.

Płyną, płyną, płyną nad ciszą...

### ГУМАР З БАРАДОЮ

**ДОБРАЕ ПАЖАДАННЕ**

Паставіла маці на стол гарачую верашчаку. Сын сербануў, ды й так апарыўся, што аж слёзы з вачэй пасыпаліся. Бацька і пытае:

— Чаго, сынку, плачаш?

— Што я ў таткі адзін, — жаласліва адказвае сын.

Сербануў верашчакі бацька, ажно вочы на лоб вылезлі!

— Ах, сынок, — кажа, — маю цябе аднаго, каб і таго даў Бог не аглядаць.



*Зіма дыхае сваё...*

## Курёзы

**„ПРЫБЫТКОВАЯ" ІДЭЯ**

Стэнлі Марк Рыфкін, спецыяліст па ЭВМ, прабраўся ў сакрэтны пакой аднаго з банкаў Лос-Анджэлеса, дзе ажыццяўлялася кіраўніцтва пераводам грошай па нацыянальнаму электроннаму каналу. Ён загадаў перавесці 10,2 мільёна долараў на сваё імя ў адзін з банкаў Цюрыха. У Швейцарыі Рыфкін купляе на 8,1 мільёна долараў брыльянтаў — гэта прыкладна 42 тысячы каратаў, каля васьмі кілаграмаў. З гэтым грузам ён адпраўляецца назад у Злучаныя Штаты. Потым знаходзіць пакупніка на свае брыльянты, але пры гэтым неабдуманымі выказваннямі выклікае ў таго падазрэнне.

Далейшыя падзеі разгорталіся хутка і без таго паліцэйскага шыку, які быў бы дарэчы тут. Пакупнік, сціміўшы, што да чаго, паведаміў у ФБР. Паводле сведчання часопіса „Ньюсуік", „спецыяліст па ЭВМ" выйшаў да паліцэйскіх з выразам палёгкі на твары і са словамі: „Вось і я".

Нядалага грабежніка і бізнесмена пасадзілі за краты, а банк тым часам вырашыў абмазгаваць ідэю свайго былога служачага. Падлічылі, што пры рознічным продажы брыльянтаў удасца атрымаць 13 мільёнаў долараў.

**БОЛЬШ НЕ БУДУ**

„5 мая я крыху выпіў і не трапіў на работу, запэўніваю, што калі будзе яшчэ адзін такі раз, то больш не паўторыцца".

*(З тлумачальнай запіскі)*




**Самая вялікая фантазія ў паклёпніка. Ён жа не бярэ з жыцця, а выдумляе.**